наша свабода

№36 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 ЧЭРВЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# «Да 2025 года на Зямлі не павінна застацца ніводнай дыктатуры»

Аддзел інфармацыі

**Такую задачу сфармулявалі ўдзельнікі міжнароднага «Форуму за дэмакратыю», які праходзіў у Варшаве 25–27 чэрвеня. У склад дэлегацыі ад аб'яднанай беларускай апазіцыі на гэты форум уваходзілі вядомыя, у тым ліку Людміла Гразнова, Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Зміцер Бандарэнка, Ніна Стужынская. На прэс-канферэнцыі яны падзяліліся з журналістамі вынікамі сваіх сустрэчаў з дзяржсакратаром ЗША Мадлен Олбрайт і вядомым фінансістам Джорджам Сорасам.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

Як зазначыў старшыня АГП А.Лябедзька, сустрэча са спадарыняй Олбрайт і яе ацэнка пазіцыяў дэмакратычных сілаў Беларусі з'явіліся істотным перыядам у гісторыі сучаснай Беларусі. Па ягоных словах, у бягучы момант дэмакратычная грамадскасць Беларусі абапіраецца «на абедзве нагі за акіянам», маючы на ўвазе падтрымку Кангрэса ЗША і «вось зараз асабіста дзяржаўнага сакратара гэтай краіны». Старшыня БНФ Вінцук Вячорка ад сябе дадаў, што канструкцыя бывае ўстойлівай толькі тады, калі яна стаіць на трох нагах, таму жыццёва неабходна атрымаць падтрымку еўрапейскіх дэмакратычных структураў. Трэба зазначыць, што на варшаўскай канферэнцыі прысутнічала каля ста міністраў замежных справаў, з якіх шмат хто жадаў, але так і не здолеў, сустрэцца з Олбрайт. У сувязі з гэтым паказальная яе згода сустрэцца з прадстаўнікамі аб'яднанай беларускай апазіцыі. Падчас размовы бакі абмеркавалі палітычную сітуацыю ў Беларусі і немагчымасць прызнання Злучанымі Штатамі і Еўропай восеньскіх выбараў у беларускі парламент пры існуючых умовах. У сваю чаргу Мадлен Олбрайт заўважыла, што на фоне раз'яднанай сербскай апазіцыі іх калегі з Беларусі ўяўляюць з сябе аб'яднаную палітычную сілу.

Што тычыцца Джорджа Сораса, дык трэба адзначыць, што замест афіцыйных трыццаці хвілінаў, якія фінансіст аддае на такога кшталту сустрэчы, размова з палітыкамі з Беларусі цягнулася каля дзвюх гадзінаў. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# Масква слязам Лукашэнкі не верыць

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**У Маскве мінулым аўторкам адбыўся чарговы саміт беларускага кіраўніка Аляксандра Лукашэнкі з расійскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным, а таксама сустрэча прэм'ераў Уладзіміра Ярмошына з Міхаілам Касьянавым і старшыняў палат парламентаў дзвюх дзяржаваў. Афіцыйна гэтае мерапрыемства насіла назву «паседжанне Вышэйшага дзяржаўнага Савета саюзнай дзяржавы».**

Перабольшванне відавочнае, бо ніякай саюзнай дзяржавы яшчэ няма, ёсць толькі прага пэўных палітыкаў да зліцця насуперак канстытуцыям абедзвюх краінаў. Даўно было бачна, што бакі пераследуюць выключна карысліваы мэты, прыкрываючы свае дзеянні рыторыкай пра славянскую дружбу і сяброўства. Апошні саміт – чарговае таму пацверджанне.

Што дасягнута на гэты раз у Маскве? Беларускія ўлады рапартуюць, што ўдалося разгледзець усе пытанні парадку дня.

А вось інтанацыі расійскага боку куды больш стрыманыя. Расійскія СМІ спасылаюцца на У.Пуціна, які выказаў незадаволенасць структурай саюзнай дзяржавы і адзначыў, што «не хуткасцю і аб'ёмам паперавых патокаў, а рэальнымі справамі» вызначаецца існаванне дзяржавы. Таксама расійскі прэзідэнт канстатаваў розніцу поглядаў на пытанні знешняй палітыкі – гэта прагучала яўным дысанансам прамове Аляксандра Лукашэнкі, які запэўніваў, што «разыходжанняў лініяў у знешняй палітыцы... у нас пакуль з Расіяй няма».

Гэтыя супярэчлівасці і далі большасці аглядальнікаў падставы казаць, што паразуменне паміж А.Лукашэнкам і У.Пуціным не знойдзенае. Звяртаецца ўвага на тое, што сустрэчы адпачатку быў зададзены канфрантацыйны характар – беларускага лідэра сустракаў у аэрапорце нават не расійскі прэм'ер, а міністр эканамічнага развіцця і гандлю Расіі Герман Грэф, вядомы як новы рэфарматар эканомікі Расіі. Гэтым парушэннем пратакола А.Лукашэнку безумоўна зняважылі, але галоўнае – далі зразумець, што цяпер яму давядзецца мець справы з маладымі і жорсткімі прагматыкамі.

Пасля гэткага «халоднага душу» адбылася сапраўдная баня – размова тэт-а-тэт з У.Пуціным. Па звестках з Крамля, А.Лукашэнка чарговы раз прасіў у кіраўніка Расіі грашовай дапамогі, выказваючы незадаволенасць тым, што апошнім часам Расія «заціскае» свайго саюзніка па ўсіх пазіцыях – і крэдытаў не дае, і цэны на паліва павысіла, і ад нашага бартэра адмаўляецца. У якасці аргумента на карысць далейшай фінансавай дапамогі Мінску зноў была выкарыстаная ідэя сумеснай 300-тысячнай вайсковай групоўкі.

Але, па звестках, усе спробы разжаліць расійскага манарха аказаліся марнымі. Новых грошай, акрамя тых, што прадугледжаны куртатым «саюзным бюджэтам», Масква не абяцала, а вось Лукашэнку прапанавана падмацаваць свае словы пра братэрства рэальнымі справамі – шырэй адчыніць дзверы беларускіх прадпрыемстваў для расійскага капіталу і ўвогуле хутчэй прыстасоўваць беларускую эканоміку да расійскай.

Што ж тычыцца сумеснай вайсковай групоўкі, то яна без заявы Лукашэнкі нікуды не дзенецца. Бо Беларусь даўно, як на ігле, сядзіць на датацыях Расіі і самастойна сваё войска ўтрымліваць не зможа. Не выключана, што А.Лукашэнка атрымаў ад У.Пуціна вымову і па гэтым пытанні. Ва ўсякім разе ні расійскі, ні беларускі бакі пра групоўку ў выніковай інфармацыі пра сустрэчу не згадваюць. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сёння завяршаецца трохдзённы рабочы візіт прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына ў Швейцарыю.** Там праходзіла 24-я адмысловая сесія Генеральнай Асамблеі ААН. ААНаўскія мерапрыемствы – бадай адзіныя сустрэчы на Захадзе, на якія запрашаюць афіцыйных беларускіх прадстаўнікоў. У.Ярмошын у сваім выступе сканцэнтраваўся на тэме Чарнобыля і падзякаваў замежным дабрадзеям за дапамогу пацярпелым ад аварыі на ЧАЭС.

■ **4-6 ліпеня адбудзецца сустрэча кіраўнікоў памежных ведамстваў Беларусі, Расіі і Украіны. Ініцыятарам сустрэчы быў украінскі бок.** На ёй мяркуецца падвесці вынікі самай буйной за апошнія гады сумеснай аперацыі «Рубеж-2000». Як паведаміў начальнік галоўнага штаба памежных войскаў Украіны генерал-палкоўнік Павел Шышолін, у ходзе гэтай аперацыі больш за 300 разоў спыняліся спробы незаконнага правозу тавараў па-за пунктамі пропуску. На мяжы было канфіскавана больш за 70 тонаў кантрабандных паліўна-змазачных матэрыялаў, больш за 100.000 пачак цыгарэтаў, сотні адзінак зброі, 1,2 кілаграма гераіну.

■ **Мінскі гарадскі савет прыняў рашэнне аб змяненні межаў двух раёнаў Мінска – Фрунзенскага і Цэнтральнага.** Рашэнне прынятае ў сувязі з дысбалансам паміж тэрыторыямі і колькасцю насельніцтва ў гэтых раёнах сталіцы. Сёння ў Цэнтральным раёне пражывае 67 тысяч гараджанаў, у Фрунзенскім – 350 тысяч. «Яблыкам раздору» паміж адміністрацыямі раёнаў былі, галоўным чынам, завод халадзільнікаў і шэраг меншых прадпрыемстваў. Канкрэтныя меры па рэалізацыі рашэння Мінгарсавета сталічная мэрыя падрыхтуе на працягу некалькіх месяцаў.

**Наступны нумар газеты выйдзе ў сераду, 5 ліпеня**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

Віцебск +18
Мінск +23
Магілёў +21
Гродна +17
Гомель +23
Брэст +22





**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 980**

